www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 39 (3882)

23 мая 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**АФІЦЫЁЗ**

# Ці развітаецца Мясніковіч з крэслам прэм'ера?

На 6 чэрвеня запланавана нарада па пытаннях эканомікі з удзелам Аляксандра Лукашэнкі. У тым, што эканамічныя паказчыкі далёкія ад тых, якія прагназаваліся, сакрэту няма. Галоўная інтрыга — ці ўтрымаецца на сваёй пасадзе кіраўнік урада Міхаіл Мясніковіч?

6 чэрвеня будуць разглядацца вынікі працы эканомікі ў гэтым годзе і прапановы ўрада адносна будучай эканамічнай палітыкі. Аляксандр Лукашэнка абяцаў, што гэта будзе жорсткая размова. Так, 24 сакавіка ён ужо адкрыта гаварыў пра пошук новага прэм'ера, хаця канкрэтных прозвішчаў не агучваў.

*"Калі шчыра казаць, прэм'ер-міністры з ніадкуль не з'яўляюцца. Яны недзе на вачах, вы гэтых палітыкаў бачыце. Таму прыйдзеце дадому, успомніце, пра каго пісалі з гэтай верхатуры, пачынаючы ад прэзідэнта, што ён можа ўзяць на сябе і выконваць паўнамоцтвы прэм'ер-міністра. Але скажу прама: я гэтым не скарыстаюся, таму што мне гэта не трэба, мне сваіх функцыянальных абавязкаў дастаткова. І ў краіне няшмат, але ёсць людзі, якія могуць выконваць функцыі прэм'ер-міністра. 11 вышэйшых службовых асоб, міністры, губернатары — ніжэй не апускайцеся, бо там прэм'ер-міністра шукаць вельмі і вельмі складана, таму што гэта павінен быць падрыхтаваны чалавек і дасведчаны, які зверху бачыць краіну. Вось праанализуйце, гэта дзесьці 35—40 чалавек",* — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

Эксперты, аднак, такой колькасці магчымых кандыдатаў у прэм'еры не знайшлі.

Як ні дзіўна, але ў першую чаргу называецца былы кіраўнік Нацыянальнага банка, зараз — намеснік старшыні ўрада Пётр Пракаповіч. У іх з Аляксандрам Лукашэнкам склаліся нейкія асабліва даверлівыя адносіны, яны размаўляюць на аднолькавай "эканамічнай мове". А тое, што Пятру Пятровічу ўжо за семдзесят? Ну і што, вунь Сукала даўно перамахнуў гэты ўзрост, але крэсла з-пад яго Лукашэнка не вымае...

Кандыдат нумар два — Сяргей Румас. Ён, наадварот, з маладых. Раней узначальваў "Белаграпрамбанк", потым працаваў віцэ-прэм'ерам і, кажуць, не ведаў, як збегчы. Цяпер Румас узначальвае Беларускі банк развіцця і на многіх міжнародных сустрэчах, на якіх вырашаюцца эканамічныя пытанні, сядзіць побач з Аляксандрам Лукашэнкам.

Яшчэ адзін кандыдат, імя якога сустракаецца найчасцей, — кіраўнік Мінскай вобласці Сямен Шапіра. Згодна з неафіцыйнай інфармацыяй, Сямёну Барысавічу ўжо не раз паступалі прапановы прыйсці ва ўрад, але ён настойліва адмаўляўся.

Пасля апошняга выступлення Аляксандра Лукашэнкі перад Нацыянальным сходам у спіс тых, хто можа заняць пасаду прэм'ер-міністра, трапіў і пенсіянер Аляксандр Папкоў, які некалі ўзначальваў Шклоўскі райвыканкам. Справа ў тым, што Лукашэнка раптам пачаў называць Папкова сваім настаўнікам, спасылацца на ягоныя меркаванні, расказаў пра тое, што раіцца з Папковым па некаторых пытаннях. Папкоў, дарэчы, маладзейшы за Пракаповіча, так што ўсё можа быць.

Галоўны кантралёр краіны Аляксандр Якабсон таксама значыўся ў спісе кандыдатаў. Але апошнія крымінальныя скандалы ў Гомельскай вобласці, думаецца, яму не на карысць. Нагадаем, што кар'ерныя карані Якабсона менавіта ў Гомелі.

Зрэшты, гадаць бессэнсоўна. Не раз здаралася, што Аляксандр Лукашэнка прымаў кадравыя рашэнні, нават не параіўшыся з бліжэйшым атачэннем. Ды і няма гарантыі, што ён адпусціць Міхаіла Мясніковіча. Па крайняй меры, адстаўкай свайму прэм'еру Лукашэнка пагражаў не раз, але адпаведны ўказ так і не з'яўляўся.



**ТЫМ ЧАСАМ**

Урад вырашае, з якім дакладам пойдзе да прэзідэнта. У сераду вынікі сацыяльна-эканамічнага развіцця абмяркоўваліся на пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў. Міхаіл Мясніковіч, кажучы пра вынікі работы эканомікі, заявіў пра неабходнасць рэфармавання прамысловага сектара.

*"Традыцыйная мадэль развіцця прамысловага комплексу сябе вычарпала. Створаныя прэзідэнтам краіны міжведамасныя групы па будаўніцтве, АПК, ЖКГ, прапанавалі і прапануюць шэраг падыходаў па ўдасканаленні дзейнасці гэтых галін. Па прамысловасці, якая вядзе галіны нашай краіны, ні міністр эканомікі, ні міністр прамысловасці варыянтаў не маюць",* — падкрэсліў Мясніковіч.

Іншымі словамі, калі з планам дзеянняў па АПК і жыллёва-камунальнай гаспадарцы нейкая яснасць ёсць, то што рабіць з айчыннай прамысловасцю, урад не ведае. Прыплылі, як кажуць...

Неафіцыйна вядома, што ўсе прапановы ўрада ляжаць у рэчышчы галоўнага тэзіса, агучанага самім Аляксандрам Лукашэнкам. *"Трэба перастаць бяздумна раздаваць грошы направа і налева. Гэта, дарэчы, не толькі эканамічная катэгорыя — гэта якраз адзін з досыць эфектыўных метадаў барацьбы з карупцыяй. Чым менш даеш грошай, тым менш можна скрасці",* — гэта цытата з выступлення кіраўніка дзяржавы з пасланнем да народа і Нацыянальнага сходу. Так урад і прапануе дзейнічаць. Толькі без грошай у нас амаль усе заводы стануць і калгасныя палі застануцца незасеянымі... Гэта ўсе разумеюць, таму падобныя планы наўрад ці можна лічыць рэалізуемымі.

**Ігар МАРОЗАЎ.**

**ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ**

## *Толькі да 28 мая*

*ёсць час у тых, каму неабходна прадоўжыць падпіску на "Народную Волю" на чэрвень.*

*Адначасова поўным ходам ідзе падпіска на II паўгоддзе.*

*Вас чакаюць у паштовых аддзяленнях і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

**ВИЗИТ**

## *Дмитрий Медведев собирается в Минск*

Премьер-министр России Дмитрий Медведев 30 мая посетит Минск, где примет участие в заседании Совета глав правительств СНГ. Об этом сообщает пресс-служба Кабинета министров.

На обсуждение глав правительств выносится более 20 документов и решений, касающихся в том числе деятельности Содружества в социальной и инновационной областях, в сфере культуры, здравоохранения, образования и спорта.

К подписанию на встрече готовятся шесть международных договоров, включая проекты соглашений о сотрудничестве в сфере обмена научно-технической информации, об информационном взаимодействии в области транспортной безопасности, в области навигационного обеспечения, а также сотрудничестве инженерных войск государств СНГ в области гуманитарного разминирования.

Кроме того, в Минске у Медведева запланирован ряд двусторонних встреч с главами правительств стран СНГ.

Еще раньше, 25 мая, Минск может посетить президент России Владимир Путин. Пока это неофициальная информация, поскольку решение Путина будет зависеть от того, выйдет ли российская хоккейная команда в финал чемпионата мира.

**ТОЛЬКІ ЛІЧБЫ**

## *Лічым мінусы*

*Учора Беларуская калійная кампанія паведаміла пра заключэнне кантракта з Індыяй.*

Пасля абвалу продажу беларускіх калійных угнаенняў і гучных скандалаў, звязаных з гэтай галіной, індыйскі кантракт быў асабліва важным. Паведамляецца, што мы дамовіліся аб пастаўцы ў Індыю ў 2014 годзе 500 тысяч тон хлоркалію па 322 долары за тону.

Добры вынік?

У мінулым годзе індыйскі кантракт БКК быў істотна лепшым. Тады была падпісана дамова аб пастаўцы 1 мільёна тон хлоркалію па 427 долараў за тону. Так што падстаў для радасці няма.

**БЛІЦ**

*У апазіцыйным асяродку назіраюцца варушэнні ў сувязі з маючымі адбыцца ў наступным годзе прэзідэнцкімі выбарамі. Праймерыз з мэтай абраць лепшага кандыдата ад партыі аб'явіла АГП, адкрытым тэкстам аб сваім удзеле ў выбарах абвясціў Уладзімір Някляеў, вядуць кансультацыі Партыя БНФ і Рух "За свабоду"... А мы вырашылі задаць галоўнае пытанне людзям, якія па-за палітыкай:*

## *Ці пойдзеце вы на прэзідэнцкія выбары, калі апазіцыя не здолее вылучыць адзінага кандыдата і зноў пойдзе на іх са спісам прозвішчаў?*

**Галіна МІКАЛАЕВА, прадпрымальніца, Смалявічы:**

— Я ўвогуле на выбары не пайду да таго часу, пакуль у краіне не зменіцца стаўленне да выбараў. Які сэнс туды хадзіць, калі ніякіх выбараў няма? Удзельнічаць у камедыі? Не збіраюся! І ніякага значэння не мае, адзін там будзе кандыдат ад апазіцыі ці некалькі. Трэба змяніць выбарчае заканадаўства, каб выбары былі празрыстымі, каб галасы людзей лічылі і ўсё было па справядлівасці. Вось тады будзе іншая размова.

**Аляксей ЦЮЛЬКОЎ, ветэрынар, Асіповічы:**

— Падзеі ва Украіне далі нагоду задумацца. Цяпер мне зразумела, што да выбараў нельга ставіцца безадказна, бо ад іх залежыць лёс краіны і лёс кожнага з нас. Ёсць моманты, якія цяпер прымушаюць думаць пра такія рэчы, якія раней здаваліся дробнымі. Так што цяжка нават на ваша пытанне адразу адказаць, і цяжка сказаць, пайду на выбары ці не. Але сітуацыя прымушае думаць пра гэта.

**Клара КАРПІЛОВІЧ, пенсіянерка, Мінск:**

— А толку... Вось я пасля інфаркту ўжо амаль год, а групу мне не далі. Амаль 30 гадоў прапрацавала з радыяцыяй на заводзе Леніна. Крыўдна, што ад завода таго нічога не засталося. Хаця на выбары, можа, і трэба схадзіць. Праграмы кандыдатаў будуць у паштовай скрыні. Пачытаю.

**Ірына ПАРМОН, пенсіянерка, Мінск:**

— На выбары пайду. Хачу, каб наша краіна была годнай дзяржавай для жыцця людзей і карысталася павагай іншых дзяржаў. Для мяне, канешне, важна, якая праграма ў кандыдатаў.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, пісьменніца, Мінск:**

— Выбары ў Беларусі нібыта ёсць, а па сутнасці іх няма. Гэта ж фікцыя. Можа здавацца, што ўсё нібыта як трэба, але чаму тады хаваюць ад чужых вачэй падлік галасоў? Чаму не пускаюць назіральнікаў? Што толку з таго, што назіральнікі сядзяць на ўчастках, калі не бачаць, як прагаласавалі людзі, не могуць пракантраляваць падлік галасоў? Няма ніякага грамадскага кантролю за нашымі выбарамі, таму і несапраўдныя выбары.

**Яўген ГУРСКІ, інжынер, Мінск:**

— Адзін кандыдат ці некалькі кандыдатаў — не мае ніякага значэння. Я не хадзіў галасаваць і не пайду, бо не бачу ў гэтым ніякага сэнсу. Кожны, хто мае розум, разумее, што ніякіх выбараў у прамым значэнні гэтага слова ў нашай краіне няма. Навошта ўдзельнічаць у кепскім спектаклі?

**Валерый МІНЕЕЎ, пенсіянер, Мінск:**

— Мне цяпер тыя выбары да лямпачкі! Не той настрой. Дачка з дзвюма ўнучкамі мела службовую кватэру, а цяпер яна мусіць плаціць за яе як за камерцыйнае жыллё. Куды ні звярталася — атрымала адмову. Гэта справядліва? Дык што мне тыя выбары? Ці могуць яны нешта змяніць у гэтай краіне, у якой жыццё ўсё горш і горш?

**Паліна ЖУКАВА, інжынер-канструктар, Магілёў:**

— Я спадзяюся, што ў нашай краіне сітуацыя да прэзідэнцкіх выбараў зменіцца настолькі, што выбары стануць празрыстымі і ў наступным годзе мы будзем па-сапраўднаму выбіраць кіраўніка краіны. Падзеі ва Украіне паказалі, як усё можа хутка мяняцца. Праўда, не ведаю, якім чынам гэта можа адбыцца ў нас. Калі ж усё застанецца, як і цяпер, то на выбары, канешне, не пайду. Навошта? ЦВК і без майго ўдзелу абвесціць, што прагаласавала амаль 100% і як мінімум 80% з іх прагаласавалі самі ведаеце за каго. Так што прозвішчы годных кандыдатаў ад апазіцыі ў спісе нічога не вырашаць, а толькі дадуць падставы заяўляць, што ў нас усё было па-дэмакратычнаму.

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

# Што ўтойваў Канаплёў?

*У крымінальнай справе ў дачыненні да былога намесніка генеральнага пракурора Беларусі Аляксандра Архіпава фігуруе і былы спікер Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Канаплёў, які абвінавачваецца ў неданясенні аб злачынстве.*

20 мая ў будынку Вярхоўнага суда ваенная калегія распачалася з разгляду гэтай гучнай крымінальнай справы, але працэс ідзе за зачыненымі дзвярыма.

Аляксандр Архіпаў абвінавачваецца паводле двух артыкулаў Крымінальнага кодэкса — за перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў і за атрыманне хабару.

Другі фігурант крымінальнай справы — **Уладзімір Канаплёў** — абвінавачваецца паводле часткі 1 артыкула 406 ("неданясенне аб злачынстве") Крымінальнага кодэкса Беларусі.

Архіпаў можа атрымаць ад 7 да 15 гадоў пазбаўлення волі, Канаплёў — грамадскія работы або штраф ці арышт да 3 месяцаў.

Крымінальную справу ў дачыненні да былога намесніка генпракурора Беларусі распачалі пасля таго, як ён спыніў крымінальную справу супраць сына бізнесмена, які без пасведчання ехаў на матацыкле і насмерць збіў 24-гадовую дзяўчыну. Аляксандр Лукашэнка ў свой час заявіў, што Архіпаў зрабіў гэта за злітак золата і бутэльку каньяку.





Дарэчы, Архіпаў ускосным чынам фігураваў і яшчэ ў адной справе па дарожна-транспартным здарэнні. 20 студзеня 2012 года аўтамабіль "Chrysler" заехаў у групу маладых людзей на абочыне дарогі ў раёне вёскі Гарадзішча Мінскага раёна. Загінулі двое хлопцаў. Адзін з іх — сын вядомага беларускага юрыста **Паўла САПЕЛКІ.** Гэта асобная справа, але сам Сапелка распавёў, што вадзіцель, які збіў насмерць дваіх людзей і, да слова, пазбаўлены правоў за кіраванне ў стане алкагольнага ап'янення, вызвалены ад крымінальнай адказнасці паводле рашэння Следчага камітэта і Генпракуратуры.

*"У той час намеснік генпракурора Архіпаў біўся за кіроўцу-забойцу, як за роднага брата. Адно з двух: ці ён не ведаў закона, ці выгароджваў злачынцу",* — дадаў юрыст.

Дарэчы, і Аляксандр Архіпаў, і Уладзімір Канаплёў падчас судовага працэсу застаюцца на волі. Учора карэспандэнт датэлефанаваўся да апошняга, каб задаць некаторыя пытанні, але адказ быў кароткі: "Народная Воля"? Да пабачэння..." Больш Канаплёў на тэлефанаванні не адказваў. Відаць, рыхтуецца да суда...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**НАДВОР'Е**

## *Грэйцеся!*

У Беларусі захоўваецца не па-майску цёплае надвор'е.

Сёння, у пятніцу, днём — месцамі кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Уначы і раніцай у асобных раёнах слабы туман. Вецер паўднёва-ўсходні ўмераны, пры навальніцах парывісты. Тэмпература паветра мінімальная ноччу +10...+16°С, максімальная днём +24...+29°С.

У наступныя двое сутак, 24 і 25 мая, захаваецца вельмі цёплае надвор'е. Краіна будзе знаходзіцца пад уплывам вобласці павышанага атмасфернага ціску, сфарміраванага ў вельмі цёплай і вільготнай паветранай масе.

У суботу і нядзелю ў асобных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, прагрымяць навальніцы. Вецер паўднёва-ўсходні ўмераны, пры навальніцах парывісты. Тэмпература паветра мінімальная ноччу складзе +13...+18°С, максімальная днём +26..+31°С.

Спякотным будзе надвор'е і ў панядзелак, але з аўторка сітуацыя пачне мяняцца. Трыццаціградусная спякота захаваецца толькі ў паўднёвых раёнах Брэсцкай і Гомельскай абласцей, на астатняй тэрыторыі ў разгар дня паветра будзе праграваецца да 25 градусаў. Месцамі чакаюцца кароткачасовыя дажджы, навальніцы.

А вось з серады на тэрыторыю нашай краіны пачнуць паступаць больш халодныя паветраныя масы. Тэмпература паветра ўначы складзе ад плюс 9 градусаў па поўначы да 18 градусаў цяпла па паўднёвым захадзе краіны, днём тэмпература будзе вагацца ад плюс 20—22 градусаў на поўначы Віцебскай вобласці да 26—28 градусаў цяпла ў крайніх паўднёва-заходніх раёнах Брэсцкай вобласці.

**ТАМ, ВА УКРАІНЕ**

# Мы з вамі, браты-ўкраінцы!

*25 мая — лёсавызначальны дзень для Украіны. У нядзелю ў гэтай краіне павінны адбыцца прэзідэнцкія выбары, і калі ніякая сіла не здолее іх сарваць, то спасылацца на тое, што Украіна не мае законна абранага кіраўніцтва, будзе проста немагчыма.*

Напярэдадні выбараў сітуацыя заставалася трывожнай. Вельмі многае пастаўлена на карту, і сепаратысцкія сілы ўсяляк спрабуюць гэтыя выбары сарваць.

Учора на ўкраінска-расійскай мяжы ішлі сапраўдныя баі. Раніцай памежнікі заўважылі спробу трох КамАЗаў прарвацца па-за пунктам пропуску ва Украіну. На папераджальныя стрэлы яны не спыніліся. Тады ўкраінцы адкрылі агонь на паражэнне, пасля чаго грузавікі развярнуліся і з'ехалі на расійскую тэрыторыю. Пасля гэтага ў аддзел памежнай службы "Станічная Луганская" прыехала група з 30 чалавек, узброеная аўтаматамі і кулямётамі. Яны запатрабавалі вызваліць памяшканне памежнага падраздзялення. Украінскія памежнікі адмовіліся і выклікалі падмацаванне. Пачаўся бой. Тэрарысты выкарыстоўвалі аўтаматы, кулямёты, гранатамёты і ручныя гранаты, аднак памежнікі атаку адбілі.

Праз некалькі гадзін пачаўся другі штурм. На гэты раз баевікоў прыкрывалі снайперы. Але і гэтая атака была адбіта, як і наступная, якая пачалася праз гадзіну. Сярод украінскіх ваенных ёсць і параненыя, і кантужаныя.

У сваю чаргу сепаратысты кажуць, што супраць іх вядзецца карная аперацыя, і папрасілі Уладзіміра Пуціна ўвесці "міратворчыя войскі". Міністр абароны Украіны заявіў, што на ўвод расійскіх войскаў рэакцыя будзе як на ваенную агрэсію...

Калі выбары ўдасца сарваць, гэты жах яшчэ доўга не спыніцца. Таму вельмі важна, каб Украіна ў бліжэйшую нядзелю зрабіла свой выбар. Па дадзеных сацыёлагаў, выбары могуць прайсці ў адзін тур, бо на іх ёсць упэўнены лідар — былы міністр і бізнесмен Пётр Парашэнка.

(Працяг тэмы на стар.5.)



**КАЛІ ВЯРСТАЎСЯ НУМАР**

Украіна звярнулася ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый з просьбай тэрмінова склікаць пасяджэнне Савета Бяспекі ААН. *"Мы прадставім доказы таго, што менавіта з расійскага боку ажыццяўляюцца спробы эскалацыі канфлікту, кровапраліцця, спробы захопу ўкраінскіх пагранічных застаў і зрыву прэзідэнцкіх выбараў",* — заявіў прэм'ер-міністр **Арсеній Яцэнюк.** У Луганскай вобласці аб'яўлена ваеннае становішча.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
23 МАЯ 2014 г.

РЭЗАНАНС

*У інтэрв'ю сайту TUT.BY Вячаслаў Кебіч, які ў 1994 годзе быў прэм'ер-міністрам і тады ж балатаваўся на пасаду прэзідэнта, сказаў:* ***"Я знал, кто победит*** *(перамог А.Лукашэнка. —* ***Рэд.****).* ***Но если бы я снялся (пасля першага тура. — Рэд.), то были бы повторные выборы, новые кандидаты и новая президентская гонка. По Конституции, если в качестве кандидата остается один человек, выборы признаются недействительными. Я знал, что проиграю, но не хотел другого развития событий. Кроме того, я знал потенциальных кандидатов, которых не хотел бы видеть в роли президента. Один из этих кандидатов — Позьняк. Поэтому я и пошел на второй тур..." І яшчэ: "Если вы уже так хотите знать то, чем я горжусь, так это тем, что не развалил государство. Я не дал Белорусскому Народному Фронту его развалить".***

*Зразумела, такая, вобразна кажучы, цынічная шчырасць В.Кебіча закранула за жывое спадара Пазьняка. Вось яго каментарый.*

# Як Кебіч ўратаваў дзяржаву ад беларусаў

Мне трапілася ў Сеціве інтэрв'ю Вячаслава Кебіча пад назвай: *"Дваццаць год пасля.* ***Кебіч:*** *"Калі чалавек доўга знаходзіцца пры ўладзе, яго перастаюць любіць".*

Пачытаў я і вярнуўся паглядзець на дату публікацыі — май 2014 года. Неверагодна. А чаму не 1984-ы? Як жа патыхнула з тэксту Савецкім Саюзам. Хоць ты сябе ўшчыкні — такая рэальнасць. Мы думаем, як хутка змяняецца свет! А вось, аказваецца, не так ужо ён і змяняецца. Нездарма Ленін ляжыць у сваім маўзалеі.

— Чаму ёсць бедныя? — задае сабе сакраментальнае пытанне спадар Кебіч і адказвае: — Таму, што ёсць багатыя.

**Журналіст:** — Дык што вы прапануеце — выдаліць багатых?

**Кебіч:** — Дакладна!.. У Савецкім Саюзе не было ні багатых, ні бедных.

Адным словам, "учение Маркса всесильно, потому что оно верно", як казаў жыхар маўзалея. І ашчаслівіць чалавецтва проста: адабраць у багатых і падзяліць паміж беднымі. І шчасце было б вечным, калі б не БНФ (што персаніфікавана вымаўлялася так: "Все было бы хорошо, если бы не Пазьняк".).

— Тое, чым я ганаруся за сваю бытнасць, — кажа спадар Кебіч, — дык гэта тым... што не даў Беларускаму Народнаму Фронту разваліць дзяржаву. Як можна адносіцца да Пазьняка, — даверліва ўсклікае прэм'ер, — які казаў: "Вы, не, ты, Вячаслаў Францавіч, першым будзеш вісець на тэлеграфным слупе!"?



Наконт "слупа", то тут, як з "бэндэраўцамі" ды "фашыстамі", існуе ўстойлівы інфармацыйны кагэбісцкі фальклор шырокага ўжывання на пэўныя выпадкі жыцця. Першы палітданос на мяне, студэнта, быў напісаны ў рэктарат інстытута адной рускай выкладчыцай ("ненавидящей националистов"), калі мне было 19 гадоў. Там якраз і фігуравалі "коммунисты на столбах". У прынцыпе, шмат якія з тых бальшавікоў-камуністаў вартыя былі б і больш суровага пакарання, але я ніколі нічога падобнага не казаў ні пра якія "слупы" ні раней, ні потым. Не прыходзіла ў галаву, ды і выхаванне не дазваляла.

У 1989 годзе, калі мяне выбралі старшынёй БНФ, лозунг пра "камуністаў на слупах" стаў класікай камуністычнай прапаганды (пры гэтым дадавалі, што "будет еще и расстреливать", паколькі ён (гэта значыць я) служыў у нямецкай паліцыі "в годы войны".) Потым, з крахам КПСС, лозунг стаў неактуальным. Але вось спадар Кебіч (які ў думках яшчэ ўвесь там) абнавіў гэтую інтэлектуальную прапаганду.

А ўвогуле, у адрозненне ад іншых нудных гробакапальшчыкаў Беларусі, Вячаслава Кебіча часам карысна чытаць, асабліва яго шчыраванні пад добрым настроем. Ну хто б з нас тады калі падумаў, што прэм'ер Кебіч ёсць заслужаны афіцэр КГБ? Пры ўсіх нашых ведах пра гэтую публіку, такое нікому з нас у дэпутацкай Апазіцыі БНФ не прыйшло ў галаву. Мы думалі: ну чаму ён такі непатрыятычны? А куфрык, аказваецца, проста адчыняўся — КГБ. У сваёй кніжцы ўспамінаў "Искушение властью" прэм'ер раптам узяў і выклаў усю праўду пра свой гэбізм, ды яшчэ і з падрабязнасцямі пра правы нашэння мундзіра і т.п. ("Праз шмат гадоў, у 1984-м, калі я ўжо быў другім сакратаром Мінскага абкама партыі, мне давялося апошні раз прыгадаць пра сваю прафесію разведчыка... сапраўдны характар гэтай місіі не ведаў ніхто нават у ЦК КПБ. Заданне я выканаў. Больш падрабязна ў дэталі гэтай аперацыі паглыбляцца не буду" ("Искушение властью", стар.267—268). Як кажуць, ад сябе не ўцячэш.

Ну, дык і як жа прэм'ер Кебіч выратаваў "государство" ад БНФ? Як не даў яго "разваліць"? Ва ўспамінах "Искушение властью" В.Кебіч так піша пра выбары прэзідэнта ў 1994 годзе: "Мы выступали с Александром Лукашенко с одинаковых политических позиций". Галоўнае (сцвярджаў Кебіч), што не дапусцілі да ўлады З.Пазьняка. І рэзюмэ: "Чей вклад в общую победу над кандидатами от БНФ... мой или Александра Лукашенко... оказался весомее, пусть рассудит время" (стар.434).

У апошнім інтэрв'ю В.Кебіч усё тое пацвярджае і дадае, што такой сваёй працай ён "ганарыцца".

Сяргей Навумчык у сваіх артыкулах некалькі разоў пісаў, што пасля першага тура выбараў ён як прадстаўнік Фронту і ўдзельнік маёй кандыдацкай каманды прапаноўваў Кебічу зняцца з выбараў і выбіць з выбарчай кампаніі стаўленіка Масквы Лукашэнку. (Вядома, масы людзей галасавалі б за Лукашэнку толькі дзеля таго, каб супраць Кебіча. Быў нават пушчаны лозунг: "абы не Кебіч". Адсутнасць Кебіча ў 2-м туры змяніла б сітуацыю не на карысць Лукашэнкі.) Кебіч адказаў Навумчыку: "Будзем думаць". Але зразумела, што ён на зняцце з выбараў не пайшоў бы, бо што Лукашэнка, што Кебіч — адна масць. Хоць рэальныя магчымасці законна перакуліць выбары і не прапусціць Лукашэнку ў Кебіча былі. Нам трэба было, аднак, праверыць і выявіць яго пазіцыю.

У інтэрв'ю В.Кебіч красамоўна пра гэты эпізод распавёў, выявіўшы прычыны сваіх паводзін: **"Я ведаў, хто пераможа. Але калі б я зняўся, то былі б паўторныя выбары, новыя кандыдаты і новая прэзідэнцкая гонка... Я ведаў патэнцыяльных кандыдатаў, якіх не хацеў бы бачыць у ролі прэзідэнта. Адзін з гэтых кандыдатаў — Пазьняк".**

Вельмі шчырае прызнанне. Толькі, як мне здаецца, ведаючы Кебіча, крыху хітраватае. Паўторныя выбары далі б Кебічу яшчэ тры месяцы часу і выгадную позу. Маўляў, я вырашыў не перашкаджаць і даў магчымасць людзям свабодна выбраць папулярнага кандыдата, а яго не выбралі. Цяпер мушу ўсвядоміць свой памылковы крок і вярнуцца ў выбары з усёй адказнасцю за лёс дзяржавы. Шанцы працягваць барацьбу ў Кебіча былі і не малыя (і група Лукашэнкі таго вельмі баялася). Але Кебіч адмовіўся ад барацьбы. Чаму адмовіўся? Асцерагаўся Пазьняка (як ён кажа)? Магчыма. Аднак галоўная прычына ў той сітуацыі была іншая (і ў гэтым інтэрв'ю яна бачна). Масква (Лубянка) не хацела страціць Лукашэнку (бо справа ўжо была "в шляпе"), і Кебічу, не выключаю, сказалі, як сябе паводзіць. Вось у гэтым і прычына.

Тут важны момант, дзеля чаго я, уласна, і вырашыў напісаць гэтую рэпліку. Ва ўводзінах да інтэрв'ю журналіст паведамляе: *"Вячаслаў Кебіч быў галоўным апанентам Аляксандра Лукашэнкі на першых прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі 20 гадоў таму".* І гэта напісана (гэтая нарыхтоўка), нягледзячы на тое, што нават у самім інтэрв'ю В.Кебіч паслядоўна такое сцвярджэнне абвяргае.

Не быў ён апанентам Лукашэнкі. Гэта саюзнікі, а не апаненты. (Панове, вы што, не чуеце, што кажа Кебіч?)

Драма прэзідэнцкіх выбараў 1994 года, калі фактычна вырашалася нацыянальная будучыня Беларусі, была ў тым, што гэтую будучыню прадстаўляў толькі кандыдат ад Народнага Фронту, а ўсе астатнія пяць кандыдатаў — гэта стары саўковы каланіяльны свет, гнілая альтэрнатыва новаму свету і яго апаненты. За трыма з іх (Лукашэнкам, Кебічам, Шушкевічам) непасрэдна стаялі КГБ, Масква і Лубянка. Лукашэнка і Кебіч тут разыгрывалі канфлікт і ішлі тандэмам супраць "националистических сил", Шушкевіч выконваў ролю блытаніка па адцягванні галасоў ад кандыдата БНФ. Дадам яшчэ, што кандыдат Фронту мог кардынальна перамагчы, прайшоўшы ў другі тур галасавання (пра гэта ўжо шмат напісана). Рэальна ён прайшоў у другі тур. Але вось тут спрацавала тое (адміністрацыйны рэсурс), што дае магчымасць спадару Кебічу загадкава прамаўляць: "Чей вклад в общую победу над БНФ... оказался весомее, мой или Александра Лукашенко... рассудит время".

Увогуле, усё, што трэба па сутнасці, В.Кебіч сказаў сам. І тое, што ён вышэйшы афіцэр КГБ, і тое, што яны разам з Лукашэнкам рабілі агульную справу супраць кандыдата БНФ, і тое, што ўсёй гэтай подлай антыбеларускай працай кіравала Масква (дакладней, спецслужбы Расіі), і тое, што Кебіч гэтай Маскве падпарадкоўваўся. Вось, напрыклад, цытата з інтэрв'ю. В.Кебіч кажа: "А з-за чаго я прайграў, я вам ужо казаў. Хаця была яшчэ адна прычына: Расія паставіла пад сумніў маё прэзідэнцтва толькі таму, што мяне пачалі запрашаць у іншыя краіны. Я аб'ехаў паўсвету... Атачэнне Ельцына падумала: "А раптам я адарву Беларусь ад Расіі?" І гэта было важным момантам".

З такім савецкім багажом сервільных разважанняў, наслухаўшыся расійскай тэлевізійнай гебельсаўшчыны, спадар Кебіч яшчэ нешта прарочыць журналістам пра цяперашнюю Украіну.

Здрадніцкая, антынацыянальная палітыка Кебіча ў 1990-х гадах добра вядомая і добра распісана не толькі намі, дэпутатамі Фронту. Ніякай розніцы паміж прамаскоўскай гэбоўсканаменклатурнай палітыкай Кебіча і антыбеларускай палітыкай Лукашэнкі няма. Цяперашняя антынацыянальная палітыка з'яўляецца працягам папярэдняй каланіяльнай палітыкі з папраўкай на амбіцыі, узрост і гульні на каньках.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

*20 мая 2014 года.*

КРОПКІ НАД «І»

## *Дык колькі ж п'юць беларусы?*

*Галоўны нарколаг Міністэрства аховы здароўя* ***Іван Канаразаў*** *абверг інфармацыю з апошняй справаздачы Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, паводле якой Беларусь аказалася на першым месцы ў свеце па спажыванні алкаголю. Ён лічыць, што міжнародныя эксперты выкарыстоўваюць методыку, якая не адпавядае нашай рэчаіснасці.*

Паводле статыстыкі ўплывовай арганізацыі, кожны беларус, якому ўжо споўнілася 15 гадоў, выпівае па 17,5 літра чыстага алкаголю (14,3 л — зарэгістраванага, 3,2 л — незарэгістраванага). Аднак на Першым нацыянальным тэлеканале выступіў Іван Канаразаў і заявіў, што гэтая справаздача змяшчае дадзеныя за 2008-2010 гады. *"І я б сказаў, што мы не першыя паводле ўзроўню спажывання алкаголю,* — адзначыў доктар. — *Мы ўваходзім дзесяці ў дваццатку краін. Афіцыйная статыстыка кажа, што ў нас спажыванне алкаголю 11,14 л на душу насельніцтва.*

Разам з тым галоўны нарколаг Беларусі заявіў, што *"даступнасць алкаголю неабходна скарачаць: гэта месцы продажу, узрост, узняцце акцызаў на алкаголь, павелічэнне ўзросту, скарачэнне часу продажу алкагольных напояў".*

Безумоўна, 17,5 літра і 11,1 — розніца немалая. Але аднолькава небяспечная. Бо нормай лічыцца 8 літраў чыстага спірту на душу насельніцтва. Калі больш, кажуць спецыялісты, гэта ўжо ўяўляе нацыянальную небяспеку — пачынаецца згасанне этнасу.

ЧУЛІ?

## *«Днямі цвярозасці» ў Мінску абвесцяць 31 мая і 12 чэрвеня*

*Звязана гэта з правядзеннем мерапрыемстваў, прысвечаных заканчэнню навучальнага года.*

*"У суботу, 31 мая, павінны прайсці ўрачыстыя лінейкі і забаўляльныя праграмы ва ўстановах адукацыі. У чацвер, 12 чэрвеня, адбудзецца ўрачыстае ўручэнне выпускнікам школ дакументаў аб адукацыі. У гэтыя дні будзе ўведзена забарона на рэалізацыю алкагольных напояў",* — паведаміла начальнік аддзела выхаваўчай і ідэалагічнай работы камітэта па адукацыі Мінгарвыканкама **Ганна Рысявец** на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Нагадваем, што з меню аб'ектаў грамадскага харчавання — рэстаранаў, кафэ, бараў і гэтак далей — алкагольная прадукцыя ў "цвярозыя дні" не знікае.

## *Беларусь увайшла ў спіс краін з найгоршымі ўмовамі для працы*

*У рэйтынгу Міжнароднай канфедэрацыі прафсаюзаў (МКП) Беларусь заняла адно з апошніх месцаў паводле ўмоў працы для наёмных рабочых.*

Арганізацыя аналізуе выкананне правоў і свабод рабочых цягам 2013 года на падставе 97 паказчыкаў, да якіх адносяцца магчымасць удзелу ў прафсаюзах, страйках і г.д.

Краіна можа атрымаць ад аднаго да пяці балаў. Адзін бал — гэта найлепшы вынік і адпавядае краінам, у якіх выпадкі парушэння правоў наёмных рабочых адзінкавыя і рэдкія. Пяць балаў — рабочыя не маюць прававых гарантый і эфектыўнага доступу да свабод, нават калі правы і свабоды ўтрымліваюцца ў працоўным заканадаўстве.

У выніку праведзенага МКП аналізу Беларусь атрымала пяць балаў. Суседкамі Беларусі па месцы сталі 24 краіны, сярод якіх Кітай, Зімбабвэ, Камбоджа, Турцыя, Лаос, Індыя.

Адзін бал набралі Барбадос, Бельгія, Данія, Эстонія, Фінляндыя, Францыя, Германія, Ісландыя, Італія, Літва, Чарнагорыя, Нідэрланды, Нарвегія, Славакія, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка, Тога і Уругвай.

ПА ВАШАЙ ПРОСЬБЕ

# Колькі рускіх хочуць перасяліцца з Беларусі ў Расію?

***Я разумею так: усе, хто ў Беларусі ці ва Украіне жадае жыць у Расійскай Федэрацыі, няхай збіраюць чамаданы і едуць у Расію. І няма чаго нават дыскусію весці, хочуць жыхары Данбаса (Віцебшчыны, Гомельшчыны, Магілёўшчыны) альбо не хочуць скасаваць незалежнасць дзяржаў, у якіх зараз жывуць. Хто хоча — няхай выязджае. Тым больш што пры расійскім пасольстве (прынамсі, у Мінску) працуе цэлая група, якая дапамагае ў перасяленні.***

**Іван Косцень, Мінск.**

"Народная Воля" вырашыла высветліць, ці сапраўды працуе такая служба. Аказалася, што наш чытач не памыліўся.

Пры амбасадзе Расіі сапраўды дзейнічае так званая часовая група, якая займаецца пытаннямі ўдзелу ў Дзяржаўнай праграме па аказанні дапамогі дабраахвотнаму перасяленню ў Расійскую Федэрацыю суайчыннікаў, якія жывуць за мяжой. Прычым часовая група месціцца ў асобным офісе па вуліцы Чарвякова, 64. Працуе штодня (акрамя суботы і нядзелі) толькі з перапынкам на абед.

Дык ці шмат этнічных рускіх, якія маюць беларускае грамадзянства, выказалі жаданне стаць удзельнікамі гэтай праграмы перасялення? Для гэтага пазваніла ў тую самую часовую групу. Адбыўся такі дыялог.

— **Трэба прыйсці да вас у офіс, каб падаць заяву?**

— А вы куды хацелі б перасяліцца?

— **Ну, напрыклад, у Падмаскоўе.**

— Не. Падмаскоўе не бярэ ўдзелу ў гэтай праграме. Калінінградская вобласць бярэ і яшчэ 45 рэгіёнаў.

— **Сібір, Далёкі Усход?**

— Чаму? Гэта Цэнтральная федэральная акруга, Заходняя, Паўночна-Заходняя, Усход, Сібір...

— **Трэба прадставіць нейкія аб'ектыўныя падставы, напрыклад, чаму я хачу перасяліцца?**

— Ваша прозвішча, імя і імя па бацьку? Год нараджэння? Калі вы падаяце дакументы, то павінны ўказаць адукацыю і тое, якой дзейнасцю плануеце заняцца. Мы з'яўляемся каардынатарамі. Калі мы вашу заяву накіруем на тэрыторыю, то там ёй будзе займацца кіруючы орган. Ён прымае рашэнне цягам двух месяцаў. Можа быць станоўчае рашэнне, а можа быць адмова. У выпадку адмовы вы можаце звярнуцца ў іншы рэгіён.

— **Перавагу аддаюць маладым спецыялістам?**

— Усё залежыць ад таго, наколькі вы працаздольны і як тая ці іншая тэрыторыя вызначыць.

— **А ці шмат людзей звяртаюцца да вас, каб перасяліцца адсюль?**

— А вам гэта навошта? Звяртаюцца... Мы такія звесткі не даём.

У адкрытым доступе знайсці звесткі пра колькасць жадаючых перасяліцца з Беларусі ў Расію не ўдалося. Цікава, што Калінінградская абласная праграма прадугледжвала, што цягам пяці гадоў у вобласць прыедуць на пастаяннае месца жыхарства больш за 300 тысяч чалавек. Але жаданне выказалі... толькі 12 тысяч.

У праграме перасялення першае месца займаюць жыхары Казахстана, Узбекістана, Туркменіі і Таджыкістана. Аднак гэта не сотні тысяч перасяленцаў. Адметна, што з Украіны да апошніх падзей жаданне перасяліцца ў Расію выказалі ўсяго... 8 чалавек.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ВЕРСИИ

# Обожглись на «Европе»?

*Умы обывателя будоражат новости об очередной зачистке гомельских чиновников. 19 мая были задержаны сразу два заместителя председателя Гомельского облисполкома, два Виктора — Банчук и Тризно. Следственный комитет лаконичен: задержаны, дают показания, злоупотребляли властью.*

Думаю, исходя из опыта жизни в Беларуси, подробности народ узнает только из первых уст — точнее, от первого лица государства. Обычно об обстоятельствах громких коррупционных преступлений громогласно сообщает глава государства, а не СК или КГБ. Это — его прерогатива. Народ должен осознавать, кто истинный и главный борец с коррупцией.

Некоторые жители Гомеля, приближенные ко "двору", задержание зампредов связывают с делом "Европы" — культурно-развлекательного центра, расположенного возле облисполкома.

27 марта заголовки СМИ прокричали о том, что "Европа" захвачена некими человечками в форме. Силовиками, неизвестно какую структуру представляющую. Вроде бы КГБ. Развлекательный центр был закрыт. Официальных комментариев не поступило — ни от силовиков, ни от самой "Европы". В начале апреля "Европа" опять приняла посетителей. Что там было, кто там шалил в масках и с автоматами — ни звука.

Но уже 3 апреля стало известно, что внезапно (для нас, конечно) снят с должности начальник УКГБ по Гомельской области Иван Лесковский. За "ненадлежащее исполнение служебных обязанностей". "Подробности не сообщаются", — сообщили СМИ.

А президент, как обычно, не стал ничего скрывать от народа и в послании последнему в день рождения Ленина заявил: *"Недавно, как вы знаете, возбуждено уголовное дело в отношении аж четырех руководителей управления Комитета госбезопасности по Гомельской области — по-моему, во главе с начальником, — которые организовали "заказную" проверку коммерческой структуры в интересах конкурентов".*

Но кто заказал данную проверку? В чьих интересах действовали холодные сердца с горячими руками? Могло ли Гомельское КГБ проявить самодеятельность и совершить произвольный дерзкий налет на "Европу"? Кто их просил, воскликнем мы патетически!

Кстати, брифинг для прессы 19 мая по факту задержания зампредов облисполкома СК провел у здания КРЦ "Европа". Случайно ли?

Время покажет. Или какая-нибудь программа "Время", где белорусский лидер выступит и расскажет о подробностях.

Вернемся к истокам. Мозырско-калинковичским.

Некоторые жители Гомеля после задержания Тризно и Банчука говорят о "начале конца" мозырского клана в гомельской верхушке.

Читатели теряются в догадках: какое же преступление совершили начальники? "Писатели" тоже теряются в догадках, кстати. Как говорят психотерапевты, источник всех проблем — в детстве и семье. Наверное, нужно исследовать детство чиновников!

А чиновничье детство — это обычно председательство в сельскохозяйственных предприятиях (к примеру, через эту школу прошли Дворник—Банчук—Пилипец), затем — райисполкомы, потом — Гомельский облисполком.

Так, в Гомельском облисполкоме руководящие должности заняли — после ухода Александра Якобсона — бывшие "мозырско-калинковичские". Председатель — Владимир Дворник (ранее возглавлял Мозырский райисполком), его заместитель Валентин Борисенко трудился ранее председателем Мозырского горисполкома. Первый заместитель Виктор Банчук работал в соседнем (всего-то 15 км) Калинковичском районе. Там же начинал чиновничью биографию и ныне приговоренный к лишению свободы Виктор Пилипец. Бывший гомельский градоначальник, ранее возглавлявший Калинковичский райисполком.

Возвращаясь ко вчерашним задержанным... Виктор Банчук на должность первого заместителя Гомельского облисполкома назначен 28 декабря 2012 года. Как и его коллега-тезка Тризно. В один день они получили портфели после зачистки гомельских чиновников, замешанных в махинациях с квартирами.

До декабря 2012-го Виктор Банчук возглавлял Рогачевский райисполком. А в "нулевых", с 2000 года, работал начальник управления сельского хозяйства Калинковичского райисполкома. Вместе с ныне сидящим Виктором Пилипцом.

После назначения на должность председателя Рогачевского райисполкома Виктор Банчук с должным пиететом вспоминал годы работы в Калинковичах. *"В свое время я прошел хорошую школу, когда работал в Калинковичском районе. Очень многому научился у его руководителя Виктора Ивановича Пилипца. И мне захотелось проверить свои силы",* — делился впечатлениями от пребывания в должности председателя Рогачевского райисполкома чиновник в 2008 году.

Попробовать силы в Рогачеве удалось. *"Есть желание, есть цель, и уже есть первые результаты. Главное не теряться, не пороть горячку. Чтобы потом не пришлось исправлять свои же собственные ошибки",* — откровенничал в интервью "Гомельской правде" Виктор Банчук.

А сейчас он или потерялся, или горячку спорол, раз дошло дело до задержания?

Виктор Банчук сменил на должности первого зампреда облисполкома Александра Баранова, который "попал в замес" с квартирами. Об этом опять же сообщил президент. *"Судите сами, за махинации с продажей квартир в Гомеле от должности первого зампредседателя облисполкома был освобожден Баранов. После чего он устроился первым заместителем директора "Белоруснефть-Гомельоблнефтепродукт",* — донес до народа благую весть официальный лидер.

22 апреля, в то время, когда Лукашенко зачитывал послание народу, в Могилевском суде зачитывали приговор бывшему председателю Гомельского горисполкома Виктору Пилипцу. Пять лет лишения свободы за злоупотребление властью. А в послании президента опять звучат имена гомельских высокопоставленных силовиков и чиновников.

Виктор Тризно в облисполкоме курирует идеологическую работу и социальную сферу (СМИ, образование, здравоохранение). По иронии судьбы, в числе прочих возглавляет комиссию по противодействию коррупции. А также комиссию по оказанию содействия в обеспечении прав жертв политических репрессий 1920—1980 годов и увековечении их памяти. Ну и иные комиссии.

Гомельскую область периодически сотрясают коррупционные скандалы, связанные с руководителями исполнительной власти. Может, тут у нас какая-нибудь сейсмическая зона, образовавшаяся после взрыва на ЧАЭС?

В основном местные чиновники грешат решением квартирных вопросов. За злополучные метры в отношении исполкомовских работников возбуждаются дела за злоупотребление властью.

Так, в 2012 году было возбуждено уголовное дело по факту незаконности выделения земельного участка бывшему первому заместителю председателя Речицкого райисполкома. В 2013 году под уголовное преследование попал бывший председатель Ветковского райисполкома. Незаконно завладел земельным участком в райцентре. На дочь оформил. Статья 424 — злоупотребление. В феврале 2014 года стало известно о возбуждении уголовного дела в отношении заместителя председателя Ельского райисполкома. Та же 424-я статья. Земельный участок для сына и предваряющая это постановка отпрыска на очередь нуждающихся в улучшении жилищных условий.

**P.S.** Задумываясь о версии с закрытием "Европы" на проверку людьми в масках и с автоматами и контрудара после этого по гомельским чиновникам и силовикам, приходишь к мысли: а кто же тогда такой могущественный стоит за этим развлекательным центром, коль за проверку данного "секретного" заведения потеряли должности чекисты и (возможно) чиновники?

**Алена ГЕРМАНОВИЧ,**
*("Белорусские новости").*

*Гомель.*

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## *Мікіту запрасілі ў Х'юстан*

**Мікіта Мішчанка,** вучань 11-га класа Ліцэя БДУ, на VII Міжнароднай алімпіядзе навуковых праектаў у галінах энергетыкі, інжынерыі і навакольнага асяроддзя, якая прайшла ў горадзе Х'юстан (штат Тэхас, ЗША), заваяваў сярэбраны медаль.

Школьнік-даследчык атрымаў узнагароду за распрацаваную "Мадэль мабільнай прылады з элементамі ачысткі паветра і дэзінфекцыі". Усяго на алімпіядзе было прадстаўлена 385 праектаў, аўтарамі якіх сталі прадстаўнікі 66 краін.

РЕВИЗИЯ

## *Каждый десятый рубль в себестоимости жилищно-коммунальных услуг — «криминальный»*

Об этом заявил председатель Комитета государственного контроля Беларуси **Александр Якобсон** на заседании рабочей группы по изучению проблемных вопросов в жилищно-коммунальном хозяйстве.

В ходе проверок предприятий жилищно-коммунального хозяйства были выявлены масштабные нарушения и злоупотребления, нерациональное и неэффективное использование средств, коррупция и так далее и тому подобное.

*"В среднем на одно проверенное контролерами предприятие ЖКХ приходится 1,5 миллиарда рублей ущерба, нанесенного неправедными действиями. Если экстраполировать эту сумму на всю систему ЖКХ (около 600 организаций), то получается около 1 триллиона рублей. А если присовокупить результаты проверок всех правоохранительных органов, то сумма значительно возрастет,* — отметил глава КГК. — *За 2013 год затраты по оказанию жилищно-коммунальных услуг составили 11 триллионов. Получается, 10 процентов в общих затратах на ЖКУ — криминальная составляющая. Это огромный удельный вес. В настоящее время доля возмещения населением затрат на оказание ЖКУ составляет около 25%. Этот показатель существенно возрастет (причем без увеличения тарифов), если исключить из себестоимости ЖКУ колоссальные "криминальные" суммы".*

